ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 59 (1260) | Пятніца, 28 ліпеня 1961 года | Цана 4 кап.

# ЮНАЦТВА — ЗА МІР І ДРУЖБУ

Іх каля 700—прадстаўнікоў маладзёжных і студэнцкіх арганізацый, таварыстваў, саюзаў—энергічных, валявых юнакоў і дзяўчат. З усіх кантынентаў прыехалі яны ў сталіцу нашай Радзімы Маскву на Сусветны форум моладзі, які адкрыўся 25 ліпеня ў Калоннай зале Дома Саюзаў. Моладзь сабралася для таго, каб абмяняцца сваімі думкамі і спадзяваннямі, радасцямі і трывогамі.

Маладому пакаленню належыць будучыня, і гэтая будучыня павінна быць светлай і радаснай. Сёння юнацтва нашай планеты ўсё больш рашуча выступае за дружбу паміж народамі, за мірнае суіснаванне, поўнае і ўсеагульнае раззбраенне. Моладзі — жыць, працаваць, ствараць! Ёй ненавісна вайна, бо вайна — гэта смерць мільёнаў людзей, гэта разбураныя і спаленыя гарады і сёлы, галеча і цемра.

Форум адкрывае старшыня Камітэта маладзёжных арганізацый СССР Пётр Рэшатаў. Ад імя мільёнаў юнакоў і дзяўчат Савецкага Саюза ён сардэчна вітае ўдзельнікаў форума і ў іх асобе ўсю моладзь, віншуе з вялікай падзеяй у жыцці маладога пакалення—пачаткам Сусветнага форума моладзі.

Ад імя масквічоў удзельнікаў Сусветнага форума моладзі вітае старшыня Маскоўскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных Н. І. Бабро́ўнікаў.

Старшынствуючы, прадстаўнік Нацыянальнага камітэта форума Японіі Харуо Камія паведамляе, што на імя ўдзельнікаў форума атрымана прывітальнае пасланне ад аднаго з лепшых сяброў маладых людзей нашага пакалення — Старшыні Савета Міністраў СССР Мікіты Сяргеевіча Хрушчова. Чуваць бурныя апладысменты.

Тэкст прывітання зачытвае кіраўнік савецкай дэлегацыі, першы сакратар ЦК ВЛКСМ Сяргей Паўлаў. У зале ўспыхвае авацыя. Усе ўстаюць. На працягу некалькіх мінут юнакі і дзяўчаты скандуюць «Мір! Дружба!».

Затым з дакладам «Моладзь, узаемаразуменне, супрацоўніцтва і мірнае суіснаванне» выступае прадстаўнік савецкай моладзі Сяргей Паўлаў.

У чалавецтва, падкрэслівае ён, няма цяпер больш важнай і больш неадкладнай праблемы, чым праблема забеспячэння трывалага міру на зямлі. Мы лічым, што адзіна рэальным сродкам назаўсёды выгнаць вайну з нашай планеты з'яўляецца ўсеагульнае і поўнае раззбраенне.

Мы спадзяёмся, сказаў у заключэнне дакладчык, што форум дапаможа ліквідаваць наяўнае яшчэ недавер'е і прадузятасць, дасць добрую магчымасць абмяняцца думкамі па найбольш важных пытаннях сучаснасці, будзе садзейнічаць далейшаму пашырэнню міжнародных сувязей моладзі. Мы працягваем руку дружбы ўсёй моладзі свету: давайце сустракацца, каб ведаць адзін аднаго, давайце мацаваць дружбу, каб нашы дзеці раслі са словамі: «будаваць, сябраваць, любіць!» Давайце разам змагацца за свет, у якім не будзе войнаў, галечы і невуцтва.

Першы дзень работы Сусветнага форума закончыўся вялікім канцэртам Дзяржаўнага рускага народнага хору імя Пятніцкага. Горача і шчыра апладзіравала моладзь савецкім спевакам, танцорам, музыкантам. Удзельнік форума студэнт-філолаг з Фларэнцыі Андрэ Маргеры ў захапленні гаворыць:

— Як гэта добра! У першы дзень форума мы мелі магчымасць пазнаёміцца з цудоўным рускім мастацтвам... Не ведаю, ці ёсць лепшы сродак у найкарацейшы тэрмін пазнаць душу другога народа, чым мастацтва!

На наступны дзень удзельнікі форума абмяркоўваюць тэму — «Моладзь сярэдзіны XX стагоддзя і яе праблемы».

З дакладам «Моладзь, барацьба супраць каланіялізму і імперыялізму, за нацыянальную незалежнасць і праблемы міру» выступілі: віцэ-прэзідэнт Усеагульнага саюза студэнтаў мусульман Алжыра Джамаль Хоху, кіраўнік дэлегацыі моладзі рэвалюцыйнай Кубы, капітан паўстанцкай арміі Хорхе Рыскет Вальдэс, сакратар Сацыялістычнай маладой гвардыі Бельгіі Жыльбер Клажо.

— Юнакі і дзяўчаты свету! — гаворыць кубінец. — Ведайце, што ніякая пагроза і ніякая агрэсія не змогуць паставіць нас на калені і прымусіць збочыць з выбранага намі шляху. З воклічам «Радзіма або смерць!» пад кіраўніцтвам нашага любімага правадыра Фідэля Кастра мы выстаім перад любой агрэсіяй. Мы пераможам.

Гэтыя словы гучаць як клятва. Удзельнікі форума стоячы вітаюць пасланца рэвалюцыйнай Кубы.

«Моладзь і раззбраенне» — з такімі дакладамі выступілі першы сакратар Саюза сацыялістычнай моладзі Польшчы Марыян Рэнке і прадстаўнік руху за ядзернае раззбраенне Вялікабрытаніі Майкл Гольдмен.

У Доме літаратараў адбылося ўрачыстае адкрыццё міжнароднага маладзёжнага клуба «Форум».

## УДЗЕЛЬНІКАМ СУСВЕТНАГА ФОРУМА МОЛАДЗІ

**Юныя сябры!**

**Мне дастаўляе вялікае задавальненне паслаць словы прывітання ўсім удзельнікам Сусветнага форума моладзі і ўсім юнакам і дзяўчатам зямлі, якія накіравалі вас на гэту сустрэчу. Добра, што маладыя людзі розных рас і нацыянальнасцей, перакананняў і вераванняў вырашылі сустрэцца разам і абмеркаваць важнейшыя праблемы, якія выклікаюць заклапочанасць ва ўсім свеце.**

**Забяспечыць людзям мір, дабіцца вызвалення ўсіх народаў ад каланіяльнага прыгнечання, змагацца за сацыяльны прагрэс, каб назаўсёды зжыць галечу, хваробы, беспрацоўе і эксплуатацыю, — вось высакародныя мэты, дзеля якіх многія мільёны людзей розных пакаленняў аддалі і аддаюць усю сваю энергію, сілы і веды.**

**Моладзь — гэта магутная, дынамічная, баявая сіла, якая актыўна ўдзельнічае ў барацьбе чалавецтва за сваю лепшую будучыню. Абараняючы справы міру, яна адстойвае свае правы і інтарэсы супраць усякіх замахаў на іх з боку рэакцыйных сіл.**

**Моладзь усё больш рашуча выступае за ўмацаванне міру паміж народамі, за мірнае суіснаванне, поўнае і ўсеагульнае раззбраенне, уключаючы забарону ядзернай зброі. Маладое пакаленне ўносіць вялікі ўклад у самаадданую барацьбу народаў супраць самай ганебнай формы прыгнечання чалавека — каланіялізму. Маладое пакаленне актыўна ўдзельнічае ў развіцці нацыянальнай эканомікі і культуры краін, якія заваявалі свабоду і нацыянальную незалежнасць.**

**Народы ўсяго свету не могуць заплюшчваць вочы на тое, што рэакцыйныя сілы на Захадзе хочуць штурхнуць чалавецтва ў бездань цяжкай па сваіх выніках ядзернай вайны. У Еўропе гэтыя сілы ўпарта, насуперак волі народаў, ствараюць ачаг вайны, адмаўляючыся ад урэгулявання германскай праблемы на аснове заключэння мірнага дагавору з Германіяй і вырашэння праблемы Заходняга Берліна.**

**Але народы свету сёння ў сілах спыніць вар'ятаў, якія хочуць уцягнуць чалавецтва ў катастрофу. Трывалы мір можна забяспечыць, калі за яго будуць змагацца ўсе народы, уся моладзь на зямлі. Множыць намаганні і адзінства дзеянняў юнакоў і дзяўчат усіх краін у гэтай барацьбе — вось тая высакародная задача, якую само жыццё паставіла перад маладым пакаленнем.**

**І чым мацней будзе гучаць голас моладзі за мір, тым хутчэй мы прыйдзем да таго часу, калі будзе знішчана ўсякая зброя і людзі будуць спакойна працаваць, не баючыся ўзнікнення разбуральнай ядзернай вайны.**

**Я перакананы, што сустрэчы і дыскусіі дапамогуць моладзі лепш даведацца адзін пра аднаго, умацуюць яе адзінства ў барацьбе за мір, прагрэс і лепшую будучыню. Ад усёй душы вітаю вас, юныя сябры, і жадаю вам добра, з вялікай карысцю правесці ваш форум.**

**М. ХРУШЧОЎ.**

**Масква, Крэмль**
**25 ліпеня 1961 года.**

Адкрыццё Сусветнага форума моладзі.
У прэзідыуме пасяджэння. Злева направа — П. Н. Рэшатаў (СССР), Нельсан Вануці (Бразілія), Гурэйсі Сумарэ (Гвінея), Лючана Кастэліна (Італія), Антоніо Карседа (Куба).
Фота М. РЭДЗЬКІНА. (Фотахроніка ТАСС).

# НОВЫЯ КАНЦЭРТНЫЯ ПРАГРАМЫ

Артысты эстрады Беларускай дзяржаўнай філармоніі ўзялі на сябе абавязацельства падрыхтаваць новыя мастацкія праграмы ў гонар XXII з'езда нашай партыі. Заказваюцца і падбіраюцца музычныя, песенныя і чытальніцкія нумары, якія адлюстроўваюць нашу гераічную сучаснасць, паказваюць людзей сённяшняга дня.

У стадыі завяршэння тэатральна-эстрадны паказ «Артысты Мінска ад шчырага сэрца», над якім працуе група артыстаў пры ўдзеле М. Шышкіна. У яго ўваходзяць фельетоны: «Успаміны партызана», «Родны горад», «Фантазія на беларускія тэмы», «Святочны вальс» і рад іншых нумароў.

Брыгада артыстаў пры ўдзеле артысткі Г. Рыжковай рыхтуе ў гонар з'езда праграму пад назвай «Лявоніха на эстрадзе». Гэтая праграма ў асноўным будзе пабудавана на эстрадна-баечным матэрыяле сатырычнага плана. Ул. Корбан піша спецыяльна для яе байкі і гумарыстычныя апавяданні.

У хуткім часе з вясёлымі святочнымі праграмамі пазнаёмяць мінчан і працоўных рэспублікі брыгады эстрадных выканаўцаў пад кіраўніцтвам Л. Пісмана, З. Сысоевай і Г. Бандарэнка.

Некалькі філарманічных брыгад абслуговаюць калгасных гледачоў Беларусі. Другі месяц працягваюцца гастролі па калгасах і раёнах рэспублікі групы эстрадных артыстаў, якую ўзначальвае Г. Рыжкова. У чэрвені яны абслужылі калгаснікаў Мінскай вобласці, а ў гэтым месяцы выступаюць перад сельскімі працаўнікамі Гродзеншчыны. Вялікую колькасць канцэртных выступленняў дала брыгада з удзелам Ул. Лапіна.

НАСУСТРАЧ XXII З'ЕЗДУ КПСС

# ТАБЕ, РОДНАЯ ПАРТЫЯ

## ПРАВАФЛАНГОВЫЯ СЯМІГОДКІ

Паліграфісты Брэсцкай вобласці высока трымаюць сцяг сацыялістычнага спаборніцтва ў гонар XXII з'езда партыі. Калектывы Пінскай, Баранавіцкай і Брэсцкай друкарняў дамагаюцца права называцца прадпрыемствамі камуністычнай працы. Яны абавязаліся да дня адкрыцця з'езда выканаць дзесяцімесячны вытворчы план.

З планам першага паўгоддзя паліграфісты вобласці справіліся паспяхова, перавыканаўшы яго па раду паказчыкаў. Сем брыгад Пінскай друкарні вырашылі жыць і працаваць па-камуністычнаму. Дзвюм з іх прысвоена ўжо высокае званне правафланговых сямігодкі.

Ударнік камуністычнай працы А. Агурцоў з Баранавіцкай друкарні — актыўны рацыяналізатар. Сёлета ён падаў некалькі прапаноў, якія далі значны эканамічны эфект.

Вучыцца і вучыцца — такі запавет ударніка камуністычнай працы. А. Агурцоў атрымаў сярэднюю адукацыю ў вячэрняй школе. Цяпер ён паступіў на завочнае аддзяленне Маскоўскага паліграфічнага інстытута. Т. Янкоўская — брыгадзір брыгады, якая змагаецца за званне камуністычнай, атрымала атэстат сталасці ў вячэрняй школе. Яна вучылася на курсах па падрыхтоўцы ў ВНУ і сёлета будзе паступаць на завочнае аддзяленне паліграфічнага інстытута.

Ударніца камуністычнай працы работніца друкарні Р. Гладкая таксама вучыцца на завочным аддзяленні Львоўскага паліграфічнага тэхнікума.

Сярод раённых друкарняў спаборніцтва ўзначальваюць калектывы Высокаўскай, Лунінецкай і Пружанскай друкарняў. Яшчэ ў мінулым годзе Высокаўскай друкарні быў уручаны пераходны Чырвоны сцяг абласнога ўпраўлення культуры і абкома саюза работнікаў культуры. І сёлета рабочыя друкарні працуюць так, што Чырвоны сцяг па-ранейшаму знаходзіцца ў іх калектыве.

## ДОБРЫЯ СПРАВЫ КІНАФІКАТАРАЎ

Аднымі з першых у рэспубліцы распачалі спаборніцтва ў гонар з'езда нашай партыі работнікі кінасеткі Івацэвіцкага раёна. Месяцы напружанай, старанай працы далі плённыя вынікі. За паўгода кінафікатары раёна выканалі васьмімесячны план. Да XXII з'езда КПСС гадавы план абслугоўвання гледача будзе выкананы. Такое абавязацельства работнікаў кінасеткі. Амаль 370 тысяч гледачоў пабывала за гэты час у кіно. Планам жа было прадугледжана абслужыць 289 тысяч чалавек.

У кожнай справе ёсць свае маякі. Яркім полымем свецяцца яны ў Івацэвіцкім раёне. Вось лепшы кінастацыянар, які працуе ў вёсцы Любішчыцы. На ім працуе камсамолец-кінамеханік Ул. Малеш. Ужо восем год, як Малеш паказвае сельскаму гледачу мастацкія, навукова-папулярныя і сельскагаспадарчыя фільмы. Калгаснікі ўдзячны свайму кінамеханіку за добрасумленную працу, умелую прапаганду фільмаў. Ул. Малеш змагаецца цяпер за права называцца ўдарнікам камуністычнай працы.

Задаволены гледачы і работай сельскіх кінамеханікаў — А. Жукевіча, А. Смірнова, А. Харко, Е. Сухадольскай, К. Лабчука, В. Дашкевіча, В. Кузьміча. Гэта — лепшыя з лепшых кінафікатараў раёна. 30 кінаўстановак працуе ў Івацэвіцкім раёне, з іх сем змагаюцца за званне калектываў камуністычнай працы.

— Мы ставім перад сабой задачу, — гаворыць загадчык аддзела культуры В. Краўчанка, — дамагчыся таго, каб кожная кінаўстаноўка нашага раёна была рэнтабельнай. Думаю, што да XXII з'езда КПСС мы з гэтай задачай справімся.

## ДВА РОДНЫЯ БРАТЫ

Прадукцыя Віцебскага дывановага камбіната набыла шырокую вядомасць не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі. Дываны вабяць прыгожым малюнкам, каляровая гама іх танальна насычаная, гарманічная. Над стварэннем эскізаў дываноў працавала група мастакоў на чале з Верай Мікалаеўнай Сенькінай.

В. М. СЕНЬКІНА.

Але вось у Брэсце нарадзіўся родны брат Віцебскага камбіната. Як заўсёды бывае ў дружнай сям'і, старэйшыя дапамагаюць малодшым. Так было і на гэты раз. Будучыя ткачыхі, прадзільшчыцы Брэсцкага дыванова́га камбіната авалодвалі гэтымі прафесіямі ў Віцебску, а галоўны мастак В. Сенькіна ўзначаліла мастацкую майстэрню Брэсцкага дыванова́га камбіната. Яе памочнікамі сталі выпускнікі Мінскага і Львоўскага тэхнікумаў народнага і прыкладнога мастацтва Ул. Гусеў і Ю. Васільеў.

Творча, натхнёна працуе ў перадз'ездаўскія дні калектыў камбіната. Яго дываны заваёўваюць усё большую прыхільнасць у нашага пакупніка. У гэтым немалая заслуга мастакоў камбіната. Тут, у майстэрні, нараджаюцца эскізы, па якіх пасля выпускаюцца дываны.

А нядаўна мастакі камбіната трымалі свой першы экзамен на сталасць. У Маскву на зацвярджэнне мастацкага савета павезла Вера Мікалаеўна 17 эскізаў, зробленых мастакамі іх майстэрні. Першы творчы экзамен вытрыманы паспяхова. «Мы вельмі хваляваліся, — расказвае Сенькіна. — Зусім жа новая майстэрня і мастакі маладыя». Але перамаглі настойлівыя пошукі, творчы запал у працы. Семнаццаць эскізаў дываноў прапанавалі брэстчане, з іх зацверджана было 16, а восем прынята з адзнакай «выдатна».

На гэты своеасаблівы конкурс Вера Мікалаеўна прадставіла 11 сваіх работ і ўсе яны былі прыняты да вытворчасці. Малады мастак Ул. Гусеў парадаваў сваім эскізам «Бярозка», у якім удала перададзены светлы вясновы настрой.

Атрымалі прэміі ў Маскве і чатыры дываны з пяці, прывезеных у сталіцу.

Першыя поспехі натхняюць і радуюць. Новыя свае эскізы мастакі камбіната прысвячаюць XXII з'езду КПСС.

Акрамя геаметрычных малюнкаў, будзе зроблена некалькі эскізаў дываноў з кветкавым узорам.

Вера Мікалаеўна — улюбёны ў сваю справу чалавек. Для брэсцкіх вышывальшчыц яна зрабіла некалькі цікавых эскізаў. Сярод іх — пано «Брэсцкая крэпасць», вымпел «Куба», якія будзе вышываць медыцынская сястра А. Камарова, і яшчэ эскіз для фіранак паводле слуцкіх матываў. Іх будзе вышываць К. Цярцічная. Гэтыя свае працы вышывальшчыцы прысвячаюць з'езду роднай партыі.

## ГАЛАСЫ МАЛАДЫХ

Яшчэ адна радасная падзея адбылася ў Брэсце. У Доме народнай творчасці адкрыта выстаўка работ студыі выяўленчага мастацтва, 15-годдзе якой нядаўна споўнілася. 12 год нязменна кіруе студыяй мастак П. Данелія.

Студыю наведвалі людзі розных прафесій і ўзросту. Тут і былы шафёр, а цяпер мастак І. Ламакін, і пятнаццацігадовы вучань сярэдняй школы Г. Нічыпарук, і слесар чыгуначных майстэрняў А. Осіпаў, і пенсіянер С. Ханок, і былы кінамеханік Ю. Мацiяс, і многія іншыя.

За гэтыя гады ў студыі навучалася звыш 300 чалавек. Каля 40 студыйцаў атрымалі рэкамендацыі для паступлення ў спецыяльныя мастацкія вучылішчы і інстытуты.

Аматары-мастакі працуюць плённа. Лепшыя іх работы штогод экспануюцца на абласной і рэспубліканскай выстаўках. У мінулым годзе, напрыклад, студыйцы прадставілі на абласную выстаўку 100 работ. З іх 35 экспанавалася пасля на рэспубліканскай выстаўцы народнай творчасці.

На юбілейнай выстаўцы студыі выяўленчага мастацтва паказана 250 работ. Многія з іх прысвечаны тэме гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці. Усеагульную ўвагу прыцягнула арыгінальная кампазіцыя слесара А. Осіпава «Ля сцен Брэсцкай крэпасці». Многа і ўдумліва працуе Г. Нічыпарук. Яго серыя пейзажаў аб Брэсцкай крэпасці хвалюе тонкай назіральнасцю, уменнем перадаць каляровую гаму.

Адным са старэйшых студыйцаў з'яўляецца Ю. Мацiяс. Яго работы, прадстаўленыя на выстаўцы, — «Снег сыйшоў», «Асенняя фантазія» і іншыя радуюць свежасцю ўспрыняцця прыроды. Добрае ўражанне пакідаюць пейзажы І. Селіхава «Сляды вайны», «Цераспальскія вароты», «Пахмуры дзень», І. Ламакіна «Холмскія вароты», «Крапасны вал» і нацюрморт «Бэз».

Упраўленне культуры, абком саюза работнікаў культуры і абласны савет прафсаюзаў прэміравалі лепшыя работы. Да з'езда роднай партыі студыйцы ствараюць новыя работы.

Пажадана было б, каб з лепшых работ гэтай цікавай выстаўкі скампанаваць некалькі перасоўных выставак і накіраваць іх у раёны вобласці.

Я. КАЛЯДА.

# ПЛЁННЫ ГОД

— Як прайшоў тэатральны сезон гэтага года? — з такім пытаннем звярнуліся мы да дырэктара Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы А. Тэлічана і дырэктара Тэатра імя Я. Коласа І. Дорскага.

— Свой 41-шы тэатральны сезон, — сказаў тав. Тэлічан, — Дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы закончыў гастролямі ў Гродзенскай вобласці. Цёпла былі сустрэты спектаклі «Паўлінка» Я. Купалы, «Выбачайце, калі ласка!» і «Лявоніха на арбіце» А. Макаёнка, «Твой светлы шлях» А. Маўзона.

У час гастролей калектыў тэатра не толькі ставіў спектаклі. Былі наладжаны і сустрэчы, на якіх абмяркоўвалася праца тэатра, выказваліся пажаданні гледачоў, а майстры сцэны дзяліліся сваімі творчымі задумамі. Адна з такіх сустрэч адбылася ў час нарады перадавікоў сельскай гаспадаркі Гродзенскага раёна. У ёй прынялі ўдзел артысты Б. Платонаў, П. Малчанаў, З. Стома, П. Пекур, Т. Аляксеева і іншыя.

На гастролях калектыў тэатра працягваў работу над спектаклямі, прысвечанымі XXII з'езду Камуністычнай партыі, па п'есах «Любоў, Надзея, Вера...» П. Васілеўскага, «Гаспадар» І. Собаля.

У пачатку новага тэатральнага сезона калектыў тэатра выязджае ў сталіцу нашай Радзімы. На сцэне Крамлёўскага тэатра гледачы ўбачаць лепшыя спектаклі беларускіх майстроў сцэны.

— Гэты сезон быў вельмі плённы, — сказаў нашаму карэспандэнту І. Дорскі. — Ён характэрны тым, што мы ўмацавалі сувязь з гледачамі. Калектыў тэатра стаў частым госцем у раённых цэнтрах вобласці, а ў апошні час паказваў спектаклі на калгаснай сцэне. Так, мы наведалі сельгасарцелі «Перамога», «Баявы партызан» Міёрскага раёна, «Парыжская камуна» Глыбоцкага раёна, пасёлкі Асвея, Дрыса, Ушачы, Расоны і іншыя. Там былі паказаны спектаклі «Выгнанне блудніцы», «Згублены сын», «Іркуцкая гісторыя». З вялікім хваляваннем ехаў калектыў артыстаў у Мінск. Можна сказаць, што творчая справаздача перад сталічным гледачом прайшла паспяхова. Гастролі мы заканчваем на будоўлі сямігодкі — Полацкім нафтагіганце.

— Як калектыў тэатра рыхтуецца да новага тэатральнага сезона?

— Вельмі цяжка сказаць, якім будзе наступны творчы год, але планы ў нас вялікія. Мяркуем, што гледачы ўбачаць спектаклі па інсцэніроўцы рамана І. Шамякіна «Крыніцы», па п'есах «Адзін год» Ю. Германа, «Гербавая пячатка» А. Гутковіча і Ф. Казоўскай. Мы атрымалі запрашэнне выступіць перад маскоўскім гледачом па тэлебачанню. Калектыў тэатра рыхтуецца сустрэць XXII з'езд Камуністычнай партыі новымі творчымі поспехамі. У дні з'езда мяркуем паказаць новы спектакль «Крыніцы».

У новым сезоне будзем умацоўваць свае сувязі з сельскім гледачом.

ГЕРОІ НАШЫХ ДЗЁН

# ПАКЛІКАЛА СЭРЦА

Хамітаў чытаў Гельвецыя. Ён сядзеў ва ўтульным мяккім крэсле, зрэдку перагортваючы крыху пажоўклыя старонкі тоўстага тома.

Чытанню перашкаджала адна і тая ж думка. Ён адганяў яе, як надакучлівую муху, але, нарэшце, зразумеў, што пазбавіцца ад яе немагчыма.

Хто ён цяпер, былы палкоўнік Хамітаў? На такое, здавалася б, простае пытанне адказаць было цяжка. Бо няма ж на свеце такой пасады — пенсіянер! Як многа усё ж ёсць прафесій: слесары, заатэхнікі, цырульнікі, урачы, журналісты, шахцёры, акрабаты, кітабоі, бухгалтары... А хто ж ён?

— Вось вазьму і прыдумаю сабе занятак,—сказаў уголас Хамітаў і, закрыўшы кніжку, пачаў хадзіць па пакоі.

Дваццаць восем год у арміі. Спачатку быў чырвонаармейцам, дaслужыўся да палкоўніка. Пра жыццё яго, поўнае нястомнай працы, трывог і небяспекі можна было б напісаць вялікую кнігу. Далёкі Усход, пагранічныя заставы. Стрэлы ўначы. Шпіёны, дыверсанты, кантрабандысты...

Апошнія гады Хамітаў служыў у Беларусі. Цудоўны край! Добры, мяккі і, разам з тым, настойлівы, на дзіва працавіты народ. Не, з Беларусі ён, вядома, нікуды не паедзе. Але вось пытанне: ці доўга яму, Хамітаву, сядзець вось так у піжаме, у хатніх пантоплях, гартаючы кнігу?

Увайшла жонка, Марыя Васільеўна.

— Сумуеш?—спытала яна спачувальна.

— Шукаю ў кнігах адказу на пытанне, што трэба рабіць чалавеку, калі ён на пенсіі,—паспрабаваў пажартаваць Хамітаў.—Магчыма, пабудаваць нам з табою дом дзе-небудзь у маляўнічай мясцовасці? Узяць колькі належыць зямлі, абгарадзіць участак і вырошчваць трускалкі. Га? Як ты на гэта глядзіш? Я б калупаўся ў зямлі, ты б варыла варэнне... Добрая штука—варэнне з трускалак! Памятаеш, як дзеці любілі здымаць з яго пенку? А то, можа, зоймемся гадоўляй трусоў? Выведзем якую-небудзь новую пароду. Згодна?

Марыя Васільеўна ведала асаблівасць мужа: калі жыццё ставіла перад ім сур'ёзную задачу, ён ніколі не вырашаў яе паспешліва, а прытрымліваўся прымаўкі — сем разоў адмерай, адзін—адрэж.

Хамітаў думаў. Піжаму ён хутка зніме. Гэта факт. Але куды скіраваць энергію, якой у яго хоць адбаўляй? Якой справе аддаць багаты жыццёвы вопыт?

Калі ён служыў у арміі, быў членам бюро райкома. Даводзілася выконваць заданні партыйнай арганізацыі па справах калгасаў. У гэтай рабоце ён разбіраецца, мае слушныя думкі, якія можна ажыццявіць на практыцы. І ўрэшце пытанне трэба ставіць так: дзе ён, Хамітаў, здолее прынесці больш карысці? Значыць, вырашана. Трэба напісаць пісьмо ў абласны камітэт партыі, папрасіць, каб паслалі ў адстаючы калгас старшынёю.

Пісьмо пісалася доўга. Хамітаў зноў і зноў перакрэсліваў выпакутаваныя ўначы сказы, рваў спісаныя старонкі. Яму хацелася, каб пісьмо пераконвала. Чаго таіцца, баяўся, што адмовяць. Да падбору старшынь калгасаў пачалі ставіцца цяпер строга. Калгаснікі не выберуць абы каго. Даволі яны мелі справу са старшынямі, якія пачынаюць з будаўніцтва ўласнага дома, а канчаюць прыпіскамі.

Праз некалькі дзён пасля таго, як было адпраўлена пісьмо, Хамітава выклікалі ў абком.

— Кватэру ў Мінску вы атрымалі?—спытаў сакратар.

— Так. І нядрэнную,—адказаў Хамітаў, стараючыся зразумець, да чаго хіліць яго субяседнік.

— А як наконт пенсіі, не пакрыўдзілі?

— Хапае.

Сакратар хвіліну падумаў, потым спытаў проста:

— Сумна стала без карыснага занятку? Так, ці што?

— Так точна, — па-вайсковаму выразна адказаў Хамітаў.—Не ведаю, што з гэтым рабіць.—Ён пастукаў пальцам па ілбе.—Ржавее машына без работы.

— Ну, там гэтай машыне работы знойдзецца,—засмяяўся сакратар і дадаў сур'ёзна:—У калгасе патрэбны разумныя людзі. Вырашылі мы вас паслаць у Пухавіцкі раён. Пагаварыце ў райкоме. Магчыма, і параяць вас у калгас... калі палічаць патрэбным.

* * *

Размова гэтая адбылася роўна год назад. Нядаўна, будучы па сваіх карэспандэнцкіх справах у Пухавіцкім раёне, я зайшоў у райком партыі. У гутарцы са мною першы сакратар райкома Аляксандр Якаўлевіч Калітка сказаў між іншым:

— Чаму б вам не напісаць пра чалавека, які ўсім сваім жыццём, справамі сваімі даказаў, што інтарэсы дзяржавы для яго даражэйшыя за свае ўласныя інтарэсы? Вось, да прыкладу, ёсць у нас адзін старшыня калгаса. Вельмі цікавы чалавек. Звольніўся ён з арміі, далі яму ў сталіцы добрую кватэру, прызначылі добрую пенсію. Але не заспакоіўся чалавек, не спачыў на лаўрах. Запатрабаваў сабе работу і не абы якую, а самую неспакойную—старшынёю калгаса стаў.

— Што ж, зарплата старшыні— добры дадатак да пенсіі,—сказаў я знарок для таго, каб пачуць пярэчанні сакратара.

— Вось тут вы і далі маху!— усклікнуў Аляксандр Якаўлевіч— У тым якраз і справа, што Хамітаў, калі яго калгаснікі выбралі, паставіў умову: ніякай, кажа, зарплаты, хопіць з мяне і пенсіі. Яго ўгаворвалі, але ён застаўся непахісны. І што б вы думалі? Месяцаў сем чалавек не атрымліваў за сваю працу ні капейкі. Нарэшце, калгаснікі (ім новы старшыня вельмі спадабаўся) катэгарычна прапанавалі Хамітаву атрымліваць зарплату. І таму давялося падпарадкавацца.

Я сеў у райкомаўскі «козлік» і праз паўгадзіны быў у калгасе «Сцяг камунізма».

Сустрэча са старшынёй адбылася на свінаферме. Спачатку я не паверыў, што гэта і ёсць Хамітаў. Перада мной стаяў чалавек у добра пашытым цёмнасінім касцюме, у шаўковай кашулі, на нагах у яго былі не заляпаныя граззю боты, якія звычайна абувае кіраўнік арцелі, калі аб'язджае сваю гаспадарку, а жоўтыя прыгожыя паўчаравікі. І ён хадзіў у гэтым «гарадскім» абутку па чыста вышараванай падлозе свінарніка, як па асфальце дзе-небудзь у Мінску. Па-вайскому дакладныя і разам з тым прыгожыя жэсты. Багаты лексікон культурнага чалавека, начытанага, разумнага. Калі б гэты чалавек адрэкамендаваўся прафесарам, я б зусім не здзівіўся. Так, старшыня падобны быў хутчэй за ўсё на вучонага.

Са свінаркамі ён размаўляў так, нібы яны былі ў яго студэнткамі-практыканткамі. Не павышаў голасу, не «разносіў» за недахопы і памылкі. Ён пераконваў, вучыў, настаўляў — мякка і разам з тым патрабавальна. У гнуткіх, я б сказаў, далікатных інтанацыях адчувалася жалезная сіла загаду.

Ён мне спадабаўся адразу. «Вось гэта старшыня!»—з захапленнем сказаў я сам сабе і толькі цяпер у поўнай меры ўсвядоміў, чаму сакратар райкома так нас-

(Заканчэнне на 2-й стар.).

